

# Малое ПАЛЕСЬСЕ



Нумар 1 (6) Красавік 2002 222010 Крупкі вул.Кутузава-7 тэл.(01796)56896 mp@crossrd.org.by Наклад 150 ас.

МОЛАДЗЕВАЕ ВЫДАНЬНЕ КРУПШЧЫНЫ

## ПАДВОДЗЯЧЫ ВЫНІКІ

**2001 год быў вельмі багаты на падзеі для скаўтаў Малога Палесься.**

Увесну мы бралі ўдзел у футбольным турніры на Кубак Незалежнасьці, што праводзіўся ў Барысаве ў межах Менскай вобласьці. Празь некалькі тыдняў у вёсцы Нача праводзіўся І-шы раённы краязнаўчы зьлёт. Сярод 10-ці камандаў было тры скаўцкіх – СШ №№ 1 і 3 м.Крупкі і Стараслабадзкой СШ. Пасьля трох дзён упартых, бескампрамісных спаборніцтваў тры першыя месцы занялі скаўты Старой Слабады і СШ №№ 1 і 3 м.Крупкі (кіраўнікі скаўцкіх адзінак адпаведна: Баравуля М.А., Аляхновіч А.П. і Пушкіна Я.А.). Прыемна было чуць, як настаўнікі і вучні іншых школ раёну казалі пра нас: «Канешне, дзе тут пераможаш, – скаўты прафэсіяналы ў краязнаўстве!»

Чэрвень прынес нам доўгачаканыя археалягічныя раскопкі й адпачынак на возеры Сялява! Нас было ўжо 60 чалавек, працавалі ў дзьве зьмены і зрабілі шмат адкрыцьцяў і знаходак. Унікальным можна лічыць выдатна захаваны наканечнік дзіды V ст. ад Н.Х., што знайшоў скаўт Алесь Зізіка. Паводле словаў скаўткі Карыны Кобы, летнік атрымаўся: «Абалдзець!»

У ліпені працягваліся вандроўкі. Старэйшыя скаўты праводзілі самастойныя шматдзённыя паходы, дзе практыкаваліся ў скаўцкім досьведзе... і паляваньні на самоў!



*Па Бабры на гумовых чоўнах*



*Скаўт Алесь Зізіка з наканечнікам старажытнай дзіды*

Капьё баброў, выдатна скончыўшы курс у ВНУ «раскруцілі» Пятровіча на пяцідзённы водны паход па Бабры на гумовых чоўнах. А прысутнасьць мастака Варламава і такіх дасьведчаных вандроўнікаў як «Фішка» і «Кабан» пакінула незабыўнае ўражаньне, – прыколам не было канца...

У жніўні мы ўдзельнічалі ў Нацыянальным скаўцкім летніку «Ля Будслаўскай сьвятыні». Тут мы нарэшце адшукалі месца, дзе прысутнічаюць усе элемэнты скаўтынгу побач, – Храм і цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай, карысная праца, рэчка, лес. Вырашылі зрабіць гэты летнік штогадовым.

Увосень правялі яшчэ адныя раскопкі пад кіраўніцтвам навуковага супрацоўніка АН РБ Аляксея Іванавіча Мехнача. Працавалі на гарадзішчы «Замачак» ля Бабра. Цікавыя знаходкі, – будзе працяг у гэтым годзе. Узімку 2002 г., як заўсёды, скаўцкае навучаньне, турыстычныя паездкі, падрыхтоўка да наступнага скаўцка-краязнаўчага сэзону.

17 сакавіка ў Менску адбыўся Сойм РГА «Аб'яднаньня беларускіх скаўтаў». Ад нашай харугвы ў кіруючыя структуры абраны два скаўты – Павал Драніца і Пятровіч. 21 сакавіка 2002 г. споўнілася 10 год РГА АБС! Віншую ўсіх скаўтаў Малога Палесься і жадаю Моцы, Веры, цярпеньня і нашых скаўцкіх... прыколаў! Спадзяюся, наперадзе нас чакае цікавае, поўнае прыгодаў і нечаканасьцяў скаўцкае жыцьцё.

Напагатове!

Жыве Беларусь!

**Куратар харугвы Андрэй Аляхновіч**

# ПАДАРОЖЖА Ў БУДСЛАЎ


Ля Будслаўскай сьвятыні

**Сёньняшні Будслаў – гэта невялічкая вёска ў Мядзельскім раёне Менскай вобласьці, але яна мае сваю багатую гісторыю. Першая згадка пра гэтае паселішча датаваная 1504 годам. Менавіта тады князь ВКЛ Аляксандар Ягелончык падараваў віленскаму кляштару бэрнандынцаў 600 моргаў лесу над ракой Сэрвеч.**

Спачатку тут пасяліўся адзін манах, потым прыехала яшчэ некалькі братоў бэрнардынцаў, якія ў хуткім часе пабудавалі невялічкую капліцу. У 1591 г. быў узьведзены і асьвечаны драўляны касьцёл. Будоўля першага каменнага касьцёлу пачалася ў 1633 г. У 1731 г. пры касьцёле адкрылася духоўная школа, дзе выкладаліся маральная тэалёгія і рыторыка, а пазьней і музыка. Новы мураваны касьцёл быў пабудаваны ў 1767 – 1783 г.г.

Летась мы – скаўты Малога Палесься – наведалі гэтую мясцовасьць. Дабірацца да Будслава было складана: спачатку на электрычцы да Менску, потым да Маладэчна, а адтуль ужо на дызэлі да Будслава. Па дарозе да нас далучыліся вілейскія скаўты.

І вось мы ўжо на станцыі «Будслаў», да вёскі яшчэ каля двух кілямэтраў, але ўжо здалёк бачны вежы Будслаўскага касьцёлу. Касьцёл пабудаваны ў стылі позьняга барока, адразу зьвяртае ўвагу вандроўніка сваёй прыгожай мансардаю, якая крыху выступае з двума ярусамі і з дзьвюма ўпрыгожанымі рознымі капітэлямі, калёнамі мансарды і дзьвюмя вельмі арыгінальнымі вежамі, ажно з чатырма ярусамі. Франтон касьцёлу здалёк вызначаецца шасьцю стылёвымі вокнамі і трыма дзвярыма галоўнага ўваходу.

У галоўным алтары касьцёлу зьмешчаны цудоўны абраз Маці Божай Будслаўскай – нацыянальная сьвятыня Беларусі. Гэты абраз віленскі ваявода Ян Пац атрымаў ад папы Клімэнта VIII. Пасьля сьмерці Яна Паца ў 1613 г., абраз быў перададзены бэрнардынцам. Па памерах абраз невялікі, у срэбным акладзе, у каронах, упрыгожаных камянямі. На ім намаляваная Божая Маці з Дзіцяткам Езусам на руках. Абраз у хуткім часе стаў знакамітым, бо вернікі, якія маліліся перад ім, атрымлівалі патрэбныя ласкі і аздараўленьні.

Сваім выглядам, гармоніяй і веліччу ён захоплівае ўяўленьне госьця, пераносячы яго ў думках у іншыя, мінулыя часы.

За час знаходжаньня ў Будславе (а мы там знаходзіліся ажно пяць дзён) мы прыбралі парк, уладкавалі навакольле каля касьцёлу і, наогул, добра правялі час.

**Валер Арцюховіч**

# СЯЛЯВА-2001

**Гэтым летам я ўпершыню пабывала ў летніку. Мне вельмі спадабалася.**

Разьмяшчаўся гэты летнік у Янаўшчынскай школе на Сяляве. Там было шмат дзяцей, і мы ўсе разам гулялі ў розныя гульні, удзельнічалі ў розных конкурсах. Было весела й цікава.

Але самае галоўнае тое, што на высьпе адбываліся раскопкі. Археолягам з Акадэміі Навук дапамагалі скаўты Малога Палесься. І хоць знаходак было шмат, але далёка ня кожнаму пашанцавала. Вось мне дык пашчасьціла – я знайшла фрагмэнт жалезнай прылады (вы ж ведаеце, што ў часы раньнежалезнага веку гэты мэтал цаніўся як золата) і была вельмі задаволеная.


На раскопках

Прыканцы летніка мы спаборнічалі на паласе перашкодаў (таксама на высьпе), хадзілі ў начны паход.

У апошнія дні ўсе былі сумныя, расчуленыя: ніхто не хацеў разьвітвацца. Але ня будзем сумаваць! Наперадзе нас чакае працяг. Спадзяюся, што ў наступным годзе летнік на Сяляве будзе яшчэ лепшым.

**Юля Ласянок**

# ЯК МЫ ДАПАМАГАЛІ АРХЕОЛЯГАМ ДАСЬЛЕДАВАЦЬ БАБРОЎСКАЕ ГАРАДЗІШЧА


Школьнікі – найлепшыя археолягі

**Раскопкі – гэта вельмі цікава, асабліва ў добрай кампаніі. Позьняй восеньню 2001 г. мы, скаўты Малога Палесься і студэнты гістарычнага факультэту БДУ пад кіраўніцтвам архэоляга А.І.Махнача распачалі працу.**

Усё, здавалася б, як заўжды: жарты, знаходкі. Апошніх, праўда, траплялася малавата. Хтось знойдзе пацерку, хтось – вельмі рэдкі аскепак мэталічнай прылады. Кераміка, якой заўжды бывае шмат – і тая была дробная. Археоляг гэта патлумачыў тым, што на гарадзішчы адсутнічаў дзернавы слой, а значыцца, кіслярод, які лёгка трапляў у культурны слой, «паеў» тысячагадовыя рэчы. І да таго ж гарадзішча не было стала заселеным пунктам, туды хаваліся толькі падчас небясьпекі.

Вось так зь цікавымі аповедамі ды жартамі мы скончылі працу. Але самы вялікі жарт адбыўся ў апошні дзень, калі студэнты-археолягі ўжо зьехалі, а мы засыпалі раскоп. Пачалі трапляцца... вялікія кавалкі керамікі і нават фрагмэнт праселка. І дзе б вы думалі? Там, дзе капалі студэнты.

Ня ў крыўду ім будзе сказана, але ўжо даўно заўважана, што школьнікі – найлепшыя археолягі!

**Тацяна Выглазава**

# Я СЬЦЯГАНОСЕЦ

**Быць сьцяганосцам вельмі адказны абавязак. Але я ня стрымцеў перад гэтым заданьнем.**


Са сьцягам усюдых

Падчас восеньскага сумеснага паходу копьяў «Ваўкоў» і «Тыграў» старэйшы скаўт Анатоль падрабязна распавёў мне аб нашым скаўцкім штандары. Ён мне адразу спадабаўся. І тут, нечакана, Пятровіч кажа, каб я ўзяў сьцяг і што з гэтае хвіліны, – Я СЬЦЯГАНОСЕЦ.

Я быў са сьцягам усюль, дзе мы хадзілі, – на стаянцы каменнага веку, на востраве пасярод возера Сялява, на старых могілках, падчас іх вывучэньня. Спачатку было цяжка хадзіць са сьцягам, напрыклад, падчас археалягічнай выведкі. Але потым Анатоль навучыў мяне як правільна трымаць і абыходзіцца зь ім, – і я хутка прыстасаваўся.

Сьцяганосец, як і іншы скаўт, павінен ведаць пра сьцяг наступнае:

1. Памеры скаўцкага сьцяга – 60 х 120 см
2. Сьцяг уяўляе сабой белае палотнішча з чырвоным крыжам. У перакрыжаваньні ляжыць лілея АБС (РГА Аб'яднаньне беларускіх скаўтаў) узятая ў авал.
3. Ён зьяўляецца сьцягам сьвятога Юрыя, апекуна мужчын-беларусаў.
4. Белы колер – чысьціня, бязгрэшнасьць.
5. Чырвоны колер – кроў Ісуса Хрыста, пралітая за грахі людзкія.

Скаўт заўсёды павінен шанаваць свой сьцяг і бараніць яго ўсімі магчымымі сродкамі.

**Скаўт Юрась Целеш, капьё «Ваўкоў»**

# У ПОЛАЦКУ



**Я вельмі люблю гісторыю нашай Бацькаўшчыны. Не магчыма быць абыякавым пры выглядзе старадаўніх храмаў, замкаў, кніг, манэт. Усім гэтым карысталіся нашыя продкі і пакінулі нам у спадчыну.**

Я ганаруся, што нарадзілася на зямлі, якая мае багатую гісторыю і якая выхавала вялікіх людзей, імёны якіх ведае ўвесь сьвет. Таму, калі мне прапанавалі паехаць на экскурсію ў старажытны Полацак, я вельмі ўзрадавалася.

Дарога ў цягніку заняла амаль шэсьць гадзінаў, але заснуць па-сапраўднаму ніхто з нас ня змог: усе хацелі хутчэй убачыць самы старажытны горад Беларусі.

За час экскурсіі мы пасьпелі наведадь храм Сьвятой Багародзіцы, музэй першадруку, Сафійскі Сабор, Спаса-Эўфрасінеўскі манастыр.

У Сафійскім саборы мне найбольш спадабаўся арганны канцэрт Ксеніі Пагарэлавай. За паўгадзіны мы пазнаёміліся з духоўнай музыкай, пачулі як гучыць арган. Гэты інструмэнт змайстраваны ў 1985 г. чэшскай фірмай «Рыгер Клос» па індывідуальным праекце і мае 3905 трубаў (!), зробленых з розных пародаў дрэва і мэталічных сплаваў.

Мяне ўразіў таксама Спаса-Эўфрасінеўскі манастыр. Яго заснавала сама Эўфрасіньня Полацкая. Мы бачылі раку зь еймымі машчамі, да якіх ідуць пакланіцца з усяе Беларусі. Эўфрасіньня зьяўляецца заступніцай зямлі Беларускай.

Мы пабачылі таксама і адноўлены крыж Эўфрасіньні Полацкай.

Уражаньняў ад паездкі было шмат. Стомленыя, але вельмі шчасьлівыя, мы вярнуліся дамоў.

**Валяньціна Ржэуцкая**

**ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА**

*Што значыць Полацак для Беларуса? Зьвернемся да гістарычных зьвестак.*

*Назва «Полацак» трапляецца ў летапісах пад 862 г. Ён зьяўляўся цэнтрам Полацкага княства. А княства было моцнай незалежнай дзяржавай.*

*Полацкае княства «пабачыла» за сваё існаваньне шмат князёў, але найвышэйшага ўздыму дасягнула пры княжаньні Ўсяслава Чарадзея. Суседзкія князі асьцерагаліся Ўсяслава, і таму мала хто спрабаваў захапіць Полацкае княства.*

*Самае галоўнае, мне здаецца, гэта тое, што Полацкае княства дало пачатак беларускай дзяржаўнасьці. Такім чынам, нашай дзяржаўнасьці – болей за тысячу год!*

*Беларусам ёсьць, чым ганарыцца.*

***Андрусь Шкіленак***

# ГЭТА НАШ СЬЦЯГ!




*(чытай на с.3)*

# РАЗЬВІТАНЬНЕ ЗЬ СЯЛЯВАЙ

**Хутка, амаль непрыкметна праляцелі тры тыдні. Шмат чаго добрага яны нам прынесьлі: новыя знаёмствы, цікавыя знаходкі на гарадзішчы. Але прысьпеў час разьвітвацца.**

Больш чым палова скаўтаў паехалі дадому. Было сумнавата. Пачалася апошняя дыскатэка. Усе бегалі, быццам іх пчолы пакусалі, занатоўвалі тэлефоны сваіх сяброў, пакідалі на памяць аўтографы ў каляндарыках, пісалі добрыя словы й зычэньні. Але самае цікавае пачалося потым, пасьля 2-й гадзіны начы.

Самыя мужныя, тыя, хто ня спаў, узброіўшыся тубікамі з зубной пастай, пачалі пакідаць свае «графіці» на тварах, руках, нагах іншых. Гэта было нешта! Заходзілі ў суседні пакой, а там стаяць чалавек пяць і мэзаюць-квэцаюць аднаго, другога, трэцяга... Паступова дабраліся й да важатых, нанесьлі ім на твары «маску мятную». Наведваліся да іх «госьці» ажно чатыры разы! Завіталі й да першага зьвязу. Усё было о'кеу, усе спалі. Мы пачалі сваю справу. Але раптам расплюшчвае вочы Пятровіч і са словамі: «Што? Ужо пад'ём? Хутка спаць!», – устае, набліжаецца да нас. Мы, канешне, лататы, чапляючыся адзін за аднаго, уцякаем, куды далей.

Недзе а шостай раніцы я сустракаюся тварам да твару з выхавацелькай Марухінай Г.Л. Яна ў мяне пытаецца: «Таня, чаго тыт тут гуляеш?!» Я ня ведаючы, што адказаць, гляджу на яе і кажу: «Ужо восем гадзін, так? Хутка на зарадку ці не?» Яна гледзячы на гадзіньнік, а потым на маю пасту нешта хацела сказаць, але я зьнікла ў суседні пакой.

Вельмі шмат цікавага яшчэ было апошняй ноччу. Я нават рабіла на тварах у хлопцаў «аплікацыі» – шмат пасты, а паўзьверх пасыпанае пер'е. Спрабавалі нават прышываць Мікалая К. да падушкі. Вось. Раніцай, калі ўсе прачнуліся ўсе-усенькі былі белыя, перапэцканыя і рукі, і ногі, і галовы, і твары, і адзеньне, і абутак. Тубік з пастай нікога «не мінуў». Усім дасталося!



*Выбірай Сляву!*

Вось так і скончыліся нашыя незабыўныя прыгоды. Потым мы яшчэ раз, апошні раз хадзілі на возера, каб выкупацца, разьвіталіся зь Сялявай і паехалі дадому. Але як не хацелася нам пакідаць летнік: спадзяемся, што ў наступным годзе мы ізноў прыедзем і там будзе ня горш, чым летась.

**Скаўтка Таццяна Выглазава, капьё «Зубры»**

# СУПЭРПАХОД

**Неяк да мяне прыйшоў Андрусь Ермаловіч і прапанаваў выправіцца ў вандроўку на трысьняговым чаўне на цэлы месяц.**

Мяне гэта зацікавіла, я згадзіўся, і мы пачалі зьбірацца. І тут да нас завітаў Янік Гліньнік і прапанаваў выправіцца ў вандроўку больш экстрэмальна – бязь ежы і рэчаў. І мы згадзіліся!

Назаўтра раніцой на першым аўтобусе мы паехалі на Сляву. Прыехаўшы на месца, я і Андрусь Ермаловіч пачалі рабіць човен, а Янік пачаў гатаваць ежу з таго, што знайшоў на беразе. І вось зрабіўшы човен, пад'еўшы мы рушылі ў вандроўку.

Калі мы адыйшлі ад берага мэтраў сто, я прапанаваў схадзіць на самовыя ямы. Андрусь і Янік згадзіліся. І мы рушылі ў напрамку самовай ямы. Напэрадзе ў нас было шмат выпрабаваньняў, але нарэшце мы дабраліся да самовых ямаў.

І тут мы заўважылі, што на нас плыве сом, – мы разгубіліся і ня ведалі, што рабіць. І тут Янік не-

*(працяг на с.6)*

нумар1(6), красавік 2002
*Малое* **ПАЛЕСЬСЕ**

# СУПЭРПАХОД

*(пачатак на с.5)*

чакана сказаў, што трэба рабіць ногі. І мы пачалі грэбсьці да берага як мага хутчэй, але сом ад нас не адставаў мэтраў трыста, а толькі потым пачаў адставаць, бо ў яго былі слабыя лёгкія. Дабраўшыся да берага, мы пачалі гатаваць ежу. Пад'еўшы, вырашылі, што начаваць будзем на дрэвах, бо сом на дрэва не залезе... так прайшоў першы дзень.

Прачнуўшыся раніцой, мы зьлезьлі з дрэваў. Вельмі карцела есьці, але не было чаго. І тут нечакана Янік прапанаваў злавіць і зьесьці таго сама. Мы пачалі разважаць, як яго злавіць. Прайшоў нейкі час, і тут Андрусь кажа: «Давайце я зайду ў возера і пачну што дурны дражніць сама. Як толькі ў яго лопне цярпеньне, ён з усяе моцы папрэ на мяне, а я пачну хуценька зматвацца на бераг, а ён будзе плыць з такой вялікай хуткасьцю, што выскача на бераг. Тут мы яго і даб'ем палкамі. Як кажуць, галоўнае заваліць, а там затапочам».

Мы зь Янікам выламалі па дубцу і сталі на беразе, а Андрусь зайшоў у ваду і пачаў выпендрывацца. Гэта доўжылася амаль гадзіну. У мяне пачалі пабольваць рукі ад дубца. І тут нечакана Андрусь выбег на бераг, а сом за ім! Мы зь Янікам пачалі біць сама дубцамі, але ўсё дарэмна, – ён адбіваўся кулакамі... І тут я вырашыў, што трэба заходзіць з хваста. Пакуль Янік махаўся, я зайшоўшы са сьпіны, даў сому па галаве і ён адрубіўся. А мы вырашылі, пакуль сом не прыйшоў яшчэ ў сябе, трэба яго зьесьці...

І так цэлы месяц: прыгоды, паляваньне, рыбалка і выпрабаваньні... Сапраўднае скаўцкае жыцьцё.

**Кавалеўскі Анатоль**



*Крупскія Томы Соеры і Гэкльбэры Фіны*

# ТАЯМНІЦЫ ВЁСКІ РАДЗІЦА

**Адным з заданьняў на раённым краязнаўчым зьлёце быў конкурс на лепшую знаходку. Пайшлі мы па яе ажно ў Радзіцу – за 7 кілямэтраў ад Начы.**

Радзіца – гэта маленькая, старажытная вёска. Ейная назва паходзіць ад слова «раіцца», «даваць параду». Менавіта там ў сярэднявеччы зьбіраліся нашыя продкі на веча.

Калі мы падыходзілі да вёскі, дык вырашылі «прашнураваць» навакольныя ўзараныя агароды. Досыць доўга нам нічога не траплялася. Але вось адзін наш хлопец падняў кераміку. Пачынаючы ад гэтага месца, паверхня зямлі была бы ўсланая кавалкамі глінянага посуду. Празь 10 хвілінаў мы ўсё сабралі.

Далей праз дарогу ад Радзіцы ўбачылі гарадзішча. Калі ісьці па ёй далей, дык праваруч убачыш абрыў, дзе некалі была рака, а цяпер – балота, парослае дрэвамі. Гэтае гарадзішча і было месцам збору князёў. На думку нашых настаўнікаў, яно было хутчэй не абарончым збудаваньнем, а рытуальным месцам сходу, сьвяцілішчам роду.



*У ваколіцах Радзіцы*

На турбазу мы прынесьлі пакет знаходак. І занялі 2 месца ў конкурсе на лепшую знаходку!

**Антось Шкіленак**

# МОЙ ПЕРШЫ ПАХОД

**Адной восеньскай нядзеляй я прачнуўся раным рана, бо трэба было ісьці ў паход. На станцыю Бобр мы дабраліся цягніком. Набралі ў бліжэйшым калодзежы вады й рушылі далей – на гарадзішча.**

Ужо на першай прыгожай паляне мы зрабілі некалькі фотаздымкаў. Знойдзенае гарадзішча мяне ўразіла глыбінёй ірвоў і вельмі стромкімі схіламі. Па памерах яно было зусім невялікае, густа парослае дрэвамі. Склаўшы заплечнік, мы пільна агледзелі гарадзішча, зарысавалі памеры.

Затым мы наведалі г.зв. Высокі бераг. Ён не дарэмна так называецца, таму што мае вышыню ажно трохпавярховага дому. Калі зь яго спусьціцца долу, а потым ускараскацца ўгору, дык больш ужо не захочаш гэта паўтараць, бо зазнаеш сапраўдны боль у нагох. Але сярод нас былі чэмпіёны!


Браты-кашавары

Паволі наблізіўся час абеду. Мы выцягнулі жэрабя, хто будзе галоўным кухарам і хто будзе мыць кацялок. Пасьля смачнага абеду мы гулялі у «яшчура», сьпявалі песьні і проста галёкалі. Было надзвычай весела. Дамоў мы пайшлі пешшу – 8 кілямэтраў. Змарыліся, але душа сьпявала.

**Антось Шкілёнак**

# КРУПСКІЯ ТУСОЎКІ



**Рэперы (слухаюць RAP і HIP-HOP).** Зьбіраюцца каля крамы «Лёкса». Прыносяць магнітафон і пад музыку RAP-у і HIP-HOP-у жартуюць, таньчаць брэйк, «бамбяць» графіці.

**Гопнікі (слухаюць папсу).** Зьбіраюцца каля гастранома. Потым ходзяць увесь вечар ад цэнтру да сьветлафораў і назад...

**Кіслотнікі (слухаюць PRODIGY).** Яны ня ходзяць па вуліцах, а зьбіраюцца ў кагосьці на кватэры і ўсю ноч скочуць пад PRODIGY.

**Панкі і анархісты (анархія – маці парадку).** Яны расьпісваюць сьцены, ліфты, дзьверы і ўсё, дзе можна паставіць знак анархіі.

**Кінаманы (любяць кінафільмы).** Кожны вечар прыходзяць у кіно і глядзяць фільмы ў кінатэатрах.

**Наркаманы (тыя, хто колюцца).** Яны зьбіраюцца, дзе ім патрэбна. Колюцца, нюхаюць, паляць, каб толькі атрымаць кайф.

**Сатаністы (тыя, хто верыць у сатану).** Яны зьбіраюцца ў сваіх куточках і праслаўляюць сатану...

**NRM-аўцы (тыя, хто слухае NRM).** Фанацеюць ад лепшага беларускага гурта NRM. Слухаюць яго, дзе прыйдзецца – на вуліцы, па хатах, у школе (нават на ўроках!). Носяць фірмовыя чорныя майкі з сымбалямі NRM.

**Вожык**

# КАМЯНІ

Вось яны, камяні, сьведкі мінулых часоў.
Там, дзе ляжаць яны, ціха звоняць званы,
Чуецца подых стагодзьдзяў і шэпт іх галасоў.
Вось яны, сьведкі мінуўшчыны. Вось яны, валуны.

Плачуць здані мінуўшчыны аб колішніх днях,
Плачуць яны, самотныя, аб дарагіх часах,
Плачуць яны, мне мілыя, аб усім і ўся,
Што страціла ты на ростанях, Бацькаўшчына мая.

**Парашылава Марыя**

# СЬМЯШЫНКІ

Бабуля прадае зёлкі. Падыходзіць хлопчык і пытае:

– Ну як, дапамагаюць гэтыя расьліны?

– Яшчэ як дапамагаюць! Сыну вось ужо другую машыну купіла.

Муж незадаволена пытае ў жонкі:

– Ты папрасавала мой касьцюм?

– Папрасавала.

– Няпраўда. У мяне ў кішэні былі пяць даляраў і яны на месцы.

– Алеся, а твой муж храпіць уначы?

– Не.

– Во шчасьлівая, хоць сьпіш спакойна.

– Во шчасьлівая... Я яго ўсю ноч за нос трымаю.

– Андрусь, выключы тэлевізар. Гэты фільм нельга глядзець дзецям.

– Мама, яны ўжо цалаваліся.

Бабуля пытае пасажыраў трамваю:

– Гэта, мабыць, апошні прыпынак, што ўсе пабеглі да выхаду?

– Не! Гэта паявіўся кантралёр!

Сын пытае:

– Тата, ты баісься тыгра.

– Не.

– А ільва?

– Не.

– А калі яны разам?

– Не.

– А чаго ты тады маму баісься?

– Бабуля, а чаму Зямля верціцца?

– Ах ты, нягоднік! Зноў бацькавы каньяк выпіў!

У мэтро:

– Вы на наступнай сыходзіце?

– Не калбасіць.

– Вы будзеце сыходзіць?

– Не калбасіць.

– Да пасуньцеся!!!

– Не калбасіць.

– А вы хоць іншыя словы ведаеце?

– Аквалянг.

– А прычым тут аквалянг?

– Не калбасіць.

У краме:

– У вас селядцы ёсьць?

– Ёсьць, трэці гатунак.

– Як гэта?

– Няма мяса, касьцей, плаўнікоў і хваста.

– А што тады ёсьць?

– Кошт.








## ЗАГАДКА

Ён ня лысы, а вусаты,
Ён ня бедны, не багаты,
Ходзіць задам напярод
І заўсёды за народ.






Малое ПАЛЕСЬСЕ

РЭДАКЦЫЯ
тэл. (01796) 56896
222010, Крупкі, Кутузава'7
e-mail:mp@crossrd.org.by
Галоўная рэдактарка: Марыя Бруніч
Шыхтоўля: Андрусь Гмыза
НАКЛАД 150 асобнікаў

*Рэдакцыя не вяртае незамоўленых тэкстаў, а таксама пакідае за сабою права іхнага рэдагаваньня й скарачэньня.*

Газэта "Малое ПАЛЕСЬСЕ" выказвае падзяку Барысаўскаму цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне" за тэхнічную падтрымку.